**Цана 30 мк.**

Год I. Вільня, 8 кастрычніка, 1922 г. № 6.

# ВЫЗВАЛЕНЬНЕ НАРОДУ

## Тыднёвая Народная Газэтка

Орган П. Н. П. „Вызваленьне“ Віленскай і Наваградзкай земляў.

| | | |
|---|---|---|
| Цана нумару 30 марак. Газэтка каштуе з паштоваю перасылкаю, ў месяц 150 марак. Без паштовай перасылкі ў месяц 100 марак. | Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня. Мастовая вул., 1, Народны Дом „Одродзэне“. Тэлефон 618. Рэдакцыя адчынена ад 1—2 і 4—5 г. | **Абвесткі:** Цэлая старонка . . . . 10.000 мк. ½ старонкі . . . . . . 5.000 „ ¼ „ . . . . . . 3.000 „ Дробныя абвесткі. . . па 100 „ за радок. |

*Кіраўнік Рэдакцыі:* *ЛЮДЗЬВІК ХАМІНСКІ пасол Сойму.* *Сябры Рэдакцыі: С. Ваяводзкі, Ф. Галавач, С Бальлін, В Шакун, Б. Ігнатовіч, П. Гайка, Я. Драздовіч. М. Дварэцкі, А. Шапель.*

**Сяляне! Памятайце адрасы вашых выбарных камітэтаў, дзе можаце радзіцца, як пільнаваць, каб вас пры выбарах паны не ашукалі.**

**У Дуніловічах — Ясьнеуская вул., 22**
**„ Лідзе — Крывая, 18**
**„ Браслаулі — Пілсудзкага, 6**
**„ Глыбокім — Ломжынская, 1.**

## Браты Сяляне!

Ужо надходзіць момэнт барацьбы, барацьбы бяскроўнае за **грамадзянскія правы, за зямлю, прасьвету і уладу народную.**

Калі выграем выбары — ўсё гэта будзе тваё.

Калі праграем — нанава пойдзеш у панскія кайданы.

Ужо сягоньня дрыжаць паны перад мужыцкай партыяй „**Вызваленьне**“. Сягоньня ўжо з скуры вылазяць, каб цябе ачмуціць, высылаўляюць дзесяткі сьпіскаў, каб цябе на які-нібудзь зламіць. Адзіная надзея паноў — гэта разьбіцьце вызваленчага руху аб здрадніцкую работу пястоўцаў-вітосікаў, радзюкоў ды іншых здрайцаў — разбівачоў.

Не шкадуюць на гэта сваіх мільярдаў.

Каб паказаць паном, што іх надзеі і мільярды дарэмны, што вясковы народ грамадой стаіць пры сваёй уласнай партыі, **„Вызваленьне“ склікае у апошнюю нядзелю перад выбарамі 29 кастрычніка вялікі зьезд конгрэс.** Вялікі перагляд арміі народнай—вызваленчай.

Хай задрыжаць панскія сэрцы, хай, страцяць яны дарэшты энэргію. Хай ведаюць, што панаваньне іх ужо скончана.

**Не шкадуйце грошай на дарогу, прыбывайце усе.**

Хай у Вільні не забракуе а ніводнага шчырага народніка.

## Чаму іх гэтак шмат проці народу?

Страх ахапіў усіх ворагаў вясковага народу і яго арганізацыі „Вызваленьне“. Эндэцкія агітатары, купленыя вялікімі панамі абшарнікамі за дзесяткі й сотні мільёнаў, бачаць, што народ ужо напраўду пачаў арганізавацца ў „Вызваленьні“ і дабівацца сваіх натуральных, дасюль таптаных, правоў. Дык выдумляюць усё новыя ды новыя фальшаваньні й ману проці народу і яго павадыроў.

Але праканаліся, што гэта ўжо мала цяпер памагае. Дык кінуліся, пакуль яшчэ ёсьць час, да іншае мэтоды. Бачаць, што старога ваўка лёгка пазнаць па пазурох і зубах, якія выглядаюць з-пад накіненай авечай („Хрысьціянскай“) скуркі. Гэткі воўк яшчэ горшы, бо корміцца падлінаю і трупамі, пад назваю „Chjeny“ („Chrześćjańska Jedność Narodowa“).

Вось жа й трэба выдумаць новае ашуканства — дык пара ваўкоў зьмянілася на баранчыкаў над назваю „Цэнтр“. Нібыто, ані направа, ані налева

ня йдуць. Але гэта тыя самыя панскія ваўкі, якія толькі направа цягнуць, як ізноў выказалі ў Сойме, калі іх галоўны сябар Бржостоўскі разам з усею партыяй Скульскага галасаваў за тое, каб выкінуць з зямлі ужыткоўнікаў і ваенных арэндатараў. А цяпер будзе ў Сьвянцянскім вокрузе чмуціць народ, баццам то ён—„Цэнтр“. Пры гэтым яны ўгаварыліся з эндэкамі, што там, дзе эндэкі йдуць на выбары (Вільня, Ліда)—там „Цэнтр“ перашкаджаць ім ня будзе. А ў Сьвянцянскім, Дзісьненскім вокрузе эндэцыя ня будзе перашкаджаць „Цэнтру“ агітаваць і чмуціць народ.

Але народ пазнае гэтых фарбованых лісоў і ня дасьць ім веры, а ні галасоў, хоць навет прывядуць з сабою даўнейшага прэм'ера ўраду Панікоўскага, бязвольнае стварэньне, якое за мандат пайдзе туды, куды яму „Цэнтр“ і паны пайсьці прыкажуць.

Іншыя партыі ўжо назву „народных“ прымаюць, але замест таго, каб бароцца з панамі, з эндэкамі, з абшарнікамі — ўсе боруцца перш за ўсё з „Вызваленьнем“. Гэтак робяць „Пясты“ Вітоса, якога з Сьвянцянаў прагнала насяленьне, абуранае на яго за ўсе махлярствы яго партыі, пярцэляцыйныя сумлкі, Дайліды і іншыя кражы публічнага дабра.

Гэтак сама проці народу й „Вызваленьня“ выступаюць „Радзюкі“ (Рады Людовыя), якія, пасьля здрады народу ў Віленскім Сойме, абяцалі папраўленьне і давалі слова, што цяпер пайдуць толькі проці паноў і правіцы, а тымчасам найбольш проці „Вызваленьня“ йдуць.

Гэтак сама і пан Стэфан Міцкевіч, які перад выбарамі прыпамінаў сабе аб бедным вясковым народзе, што можа даць галасы, каб яго ў Сойм увесьці — дык старую нашую назву „Адраджэньне“ сабе прысвойвае і зьяўляецца кандыдатам па першым месцы ў Вільні і Сьвянцянах, каб толькі самому ў Сойм дастацца, а востра выступае проці „Вызваленьня-Адраджэньня“ й „Вызваленьня“, бо памятае, што праўдзівая народная партыя хацела аб'яднаньня з Польшчаю, а не як ён са сваімі прыяцелямі ў Сойме, якія перад тым хацелі йсьці да Літвы на згоду.

Розныя людзі пад новай фірмаю „Дзяржаўнага Акраіннага Саюзу“ (Państwowy Związek Kresowy“) гэтак сама кінуліся паляваць на мужыцкія галасы дзеля здабыцьця мандатаў, але таму што гэтак позна прыйшлі, дык яшчэ ня чуваць нам аб іх выступленьнях і ня ведаем, ці будуць трымацца з намі прыстойна, ці не.

Нарэшце Беларусы, замест таго, каб ісьці з народам рука ў руку, — ў сваёй клерыкальнай часьці кіраванай ксяндзом Станкевічам, замест разьбіваньня эндэкаў, ворагаў народных і Народу Беларускага, эльбо няшчырых „Пястаў“ ды здрадлівых Радзюкоў, — ўсю сілу зьвяртаюць проці „Вызваленьня“. Маем надзею, што іх ёсьць мала і што гэта толькі ксёндз Адам Станкевіч гэтак блага робіць, аб чым ужо шырока было пісана.

Дык 6, ці 7 партыяў ідзе проці народу й „Вызваленьня“. Але народ ведае, дзе праўда і ня дасцца ім чмуціцца — і ў дзень 5 лістапада пры выбарах у Сойм, гэтак сама, як і 12 лістапада — ў Сэнат — падасьць галасы за свой сялянскі праўдзівы нумар „Вызваленьня“ і Лявіцы Людовай — № 3.

---

## Справа акраінаў у Сойме.

### Абарона уласьнікаў хатаў.

У Сойме праведзена права аб абароне ўласьнікаў хатак на чужой зямлі на усіх акраінах. **Нельга іх выкідаць да восені будучага 1923 году,** а ў працягу гэтага часу новым Соймам павінна быць прынята права аб выкупе. Па даручэньню Сойму ўрад мае прырыхтаваць гэткае права перад 1 сакавіка (марца) 1923 году. Арэндатары мусяць плаціць тое самае, што перад вайною, лічачы за рубель 500 марак. „Вызваленьне“ кажа, што гэта зашмат, дык робіць прапазыцыю зьменшыць гэтую суму да 300 мар.

### Урэгуляваньне колёнізацыі.

Сойм, які прыняў ваенную колёнізацыю на акраінах, ня хоча й ня можа яе адмяніць. Пястоўцы Вітоса і эндэкі усю сваю палітыку апіраюць на тым, каб якнайбольш мужыкоў з Польшчы пасляць на акраіны, бо Пястоўцы пры гэтым зарobяць на сваіх супалках, а эндэкі думаюць, што тады больш застанецца зямлі для абшарнікаў у Польшчы. Аб бедным тутэйшым насяленьні гэтыя паны — эндэкі і пястоўцы саўсім ня думаюць.

Дык ня могучы зьмяніць колёнізацыі зусім, трэба яе ўрэгуляваць гэтак, каб якнайменш крыўдзіла тутэйшае насяленьне. Вось жа на аснове а'безду камісіі і згоды партыяў сярэдзіны й лявіцы, пры дадатку некалькіх вельмі важных паправак нашага пасла Пянятоўскага Сойм прыняў 14 рэзолюцыяў, як урад павінен правесьці справу колёнізацыі. Гэтага яшчэ не даволі, але-ж прынамсі часьць дасюлешняе крыўды паправіць і не дапусьціць да гвалтоўных бяспраўяў. Рэч цікавая, што пястоўцы амаль што да канца не хацелі згадзіцца на гэтае папраўленьне. Нічога дзіўнага — яны пайшлі ўжо на поўную барацьбу з насяленьнем на акраінах, якое гэтых фарбованых „народнікаў“ пазнала. Сягоньня „Пяст“ баіцца свае назвы на акраінах і яднаецца з нейкімі цёмнымі сіламі да выбараў пад назваю „Зьедночэня“.

Найважнейшыя справы ўрэгуляваньня колёнізацыі гэткія: Пастаноўлена каб колёнізацыя падлягала Галоўнай Зямельнай Управе, якая мусіць правесьці зямельную рэформу, а значыцца будзе дбаць аб насяленьні. Пастаноўлена каб лік колёністых быў акрэсьлены зьверху на год наперад каб ня было іх зашмат. Каб зараз падзяліць паміж насяленьнем тую часьць зямлі, якая яму належыць паводлуг права з двароў, узятых для колёнізацыі. Па прапазыцыі „Вызваленьня“ пастаноўлена, каб для

колёнізацыі ня браць зямлі, якая знаходзіцца ў руках дробных арэндатараў і ваенных ужыткоўнікаў, а таксама зямлі сэрвітутнае, альбо раней закупленай. Прынята, нарэшце. папраўка „Вызваленьня“, каб аднагадовым ужыткоўнікам, калі возьмуць зямлю на колёнізацыю — дык, каб ім дана было сабраць свае плады. Пастаноўлена правесьці рэвізію інстытуцыяў, якія займаюцца колёнізацыяй.

Кожны прызнае, што хаця гэтыя пастановы яшчэ й не папраўляць усяе крыўды колёнізацыі, дык прынамсі зьменшаць яе і злагодзяць.

**Пацьвярджэньне прадажы зямлі.**

У камісіі й Сойме пастаноўлена, што хто ўмовіўся перад вайною, альбо ў часе вайны прадаць дом у горадзе, альбо зямлю на вёсцы—а ня мае пацьверджанага свайго права натарыюсам, судом, альбо гіпотэкаю, дык мае права ў працягу году затрэбаваць гэтага, хоць бы той, хто раней прадаў, не схацеў цяпер падпісаць акту. Права гэтае ня мае моцы, калі той, хто купляў не заняў гэтае зямлі, альбо праз сваю толькі віну не аплаціў. Калі часьць грошай яшчэ не заплачана — дык калі віну пакоіць прадаўца (не хацеў пры няць), дык дастане цяпер за 1 рубель 2 маркі 16 фэнігаў. Калі віна незаплаты была супольнаю абедзьвюх старонаў, альбо нічые віны ня было, дык цяпер трэба заплаціць адну чацьвертую часьць таго ліку сучаснай цаны жыта, якую прадстаўляла недаплачаная сума, калі б за яе купіць жыта тады, калі мела быць заплачанай паводлуг умовы.

**Права аб ужыткоўніках.**

Усе ведаюць, што 27 студня гэтага году выйшла ў Сойме права аб ваенных ужыткоўніках (якія арэндавалі, альбо засявалі чужую зямлю праз увесь 1921 г.). Ня можна было іх выкідаць да 31 кастрычніка гэтага году з хатаў і сенажацяў, а да 31 жніўня з палёў. Нашыя чытачы („Wyzwolenia - Odrodzenia“) памятаюць прапазыцыі пасла Хамінскага аб гэтай справе і што Сойм у двох чытаньнях прыняў, усе гэтыя прапазыцыі і прадаўжэньне абароны на два гады. Але эндэкі спрацівіліся тады трэцьцяму, або аканчальнаму чытаньню ў Сойме, якое толькі цяпер адбылося.

Эндэкі мелі ў той дзень большасьць у Сойме, бо большая часьць паслоў пястоўцаў Вітоса, якім яны гэтак хваляцца, лічыла за лепшае думаць аб мандатах, альбо капаць б льбу ў сябе на вёсцы, чымся бараніць у Сойме правы крыўджанага народу. Тады аказалася, што гэтак званы „цэнтр“ (партыя Скульскага, дзе ёсьць шмат ксяндзоў, а таксама й мужыкоў накшталт слаўнага плачам лідзкага войта Клышэўскі) будзе галасаваць з эндэкамі проці бедных арэндатараў і ужыткоўнікаў і, усё прадаўжэньне мае адкінуць.

Пасол Хамінскі падскочыў да іх і ў апошнюю мінюту нагаварыў іх, каб адаслалі справу ў камісію, дзе можа знайдзецца нейкае паразуменьне.

Аднак у камісіі эндэкі ізноў правялі сваё. Нашым паслом удалося толькі абараніць ужыткоўнікаў арэндатараў да вясны, каб іх ня выкінулі з памяшканьняў.

Тады пасол Хамінскі умовіўся з паслом Бржостоўскім з Вільні, які зьвязаецца кандыдатам ад гэтага ксяндзоўска панскага „цэнтру“ Скульскага ў Сьвянцянскім вокрузе, каб гэты „цэнтр“ галасаваў з лявіцаю аб прадаўжэньні абароны хоць-бы на год — да будучай восені Цэнтр згадзіўся, але ў апошнюю мінюту ў Сойме **здрадзіў умову!!!** .. і галасаваў проці прадаўжэньня разам з эндэкамі. Ня ведаю, як цяпер пан Бржостоўскі пакажацца ў Сьвянцянах, ці ў Глыбокім пасьля гэткае здрады.

Усе прапазыцыі Хамінскага, Вызваленьня й Радаў Людовых Сойм адкінуў.

Засталася толькі на пацеху абарона ваенных арэндатараў да 1 красавіка будучага 1923 г. Ніхто ня мае права выкідаць іх з хатаў і памяшканьняў да гэтага часу, але засяваць ужо ня маюць права.

А што будзе на весну будучага году?

Будзе тое, што пастановіць народ 5 лістапада. Калі ў Сэнат увайдзе большасьць „Вызваленьня“ й лявіцы — дык правядзём новае права аб абароне, але калі народ будзе дурны і падасьць галасы за паноў у розный скуры і пад розным назовам, як гэты здрадлівы „цэнтр“ ці „зьедночэнэ“ — дык тады будзе блага.

Дык памятайце — галасуйце за нумар 3.

І яшчэ адно. Пястоўцы Вітоса паказалі ўсю сваю душу, зьверненую проці беднага насяленьня на окраінах. Прынялі яны папраўку, што калі-б нашыя прапазыцыі аб прадаўжэньні прайшлі, дык каб усё такі меці права выкідаць арэндатараў і ужыткоўнікаў у тых дварох, якія ім спадабаецца забраць на колёнізацыю для сваіх людзей. Вось і вылезла шыла з мяшка, што „Пяст“ у нас проці насяленьня. Ці не для гэтага хавае ён сябе пад новай назваю „Зьедночэня“, аб'яднаўшыся з панамі ў Баранавічах, бо ведае, што ніхто за яго галасаваць ня будзе. Аб гэтай справе чытайце ў артыкуліку „Новае ашуканства“.

**Людзьвік Хамінскі.**
пасол Сойму.

---

## Правакатарская агітацыя Радзюкоў.

У паветах Наваградзкім, Баранавіцкім, Стаўпецкім, дзе ад былося ўжо шмат вечаў (сходаў) „Вызваленьня“ і дзе ўжо рух вызваленскі пашыраецца штораз болей, бо сялянство хінецца тлумна да сваей грамады „Вызваленьня“, — дык там платные агітатары Rad Ludowych, якіх народ на вечы саўсім ня хоча слухаць і нават папросту праганяюць з вёсак, — цяпераka вымысляюць усялякую правакацыю аб нашых дзеячох — вызваленцах. Пускаюць яны ў людна сьць вясковую усялякія плёткі, быццам вызваленцаў нашых, Гельмана і Шакуна, якія рабілі тамака вечы (сходы) ўжо паарыштоўвалі і выслалі ў кандалах і так сама нібы зробяць з тымі, хто запісаўся да партыі „Вызваленьня“ і плятуць яшчэ быццам грам. Шакуна забілі навят з карабіна (па аднэй гутарцы — ў Любчы, а па другой— ў Турцы) ў той час, як гаварыў ён да народу.

Панскія наймiты — агітатары Rad Ludowych дагэтуль яшчэ не запомнялі аб старых спосабах —аб арыштах, аб кандалох і думаюць запужаць гэтым народ вясковы.

Алеж не памогуць вам, панічы, гэтыя страхі!

Бо мінуліся здэцца тыя часы як вы, Радзюкі, былі яшчэ „Стражай Крэсовай“ дн тэро-

3

3

3

071513



рызовалі страхам людзей на сходах, на якія зганялі вы іх сілай.

А што ўжываеце вы ў агітацыі бязглуздую ману проці „Вызваленьня“, дык аб гэтым добра ведаеце і вы самі. Брыдка!

**Вл. Шакун.**

3

## Пэуна, што таксама падкуплены эндэкамі.

Адтрымалі мы скаргу на абвадовага солтыса вёскі Сухводзы, Валожынскага павету за яго самавольнае прасьледаваньне дзеячоў „Вызваленьня“ і нашай газэткі „Вызваленьне Народу“.

Лядашчы гэты эндэцкі слуга тэрорызуе народ у вёсцы, страшачы, што пазабірае жывёлу, калі будуць iсьці за „Вызваленьнем“, а грамадзяніна Антона Кулеша навет пабіў за чытаньне нашае газэткі.

Нясумленнасьць гэтага паслугача дайшла да таго, што 27.IX.22. напаў пасьля сходу ў вёсцы Сухводзы на сябра П. Н. П. Вызваленьня, грам. Янку Куніцкага і лаяў яго і грубіяніў, прэзываючы яго бальшавіком У канцы нагаварыў паліцэйскага, каб арыштаваў грам. Куніцкага і неразумны паліцэйскі (дурны, бо ня ведае што зрабіў гэта бяспраўна) арыштуе й забірае ад нашага сябра ўсе газэткі 24.IX.22, 50 штук прэграмы „Вызваленьня“ і канцэлярскую паперу. Па дарозе да камісарыяту паліцыі м. Валожына грам. Куніцкі запротэставаў проці гэтага самавольнага арышту і не пазволіў паліцэйскаму завясьці сябе ў камісарыят.

3

Паліцэйскі пусьціў яго, але газэтаў не аддаў.

Думаем, што паліцэйскі праз несьвядомасьць і дурнату дапусьціўся да гэтага бяспраўя, але солтыс Пранцішак Багдан раней, ці пазьней адкажа за сваю подлую дзеяльнасьць, за хлусьлівыя пастрахі насяленьня, за кражу нашых газэтаў і за ўсе свае выбарчыя штучкі. І хай ведае, што яны ня шмат памогуць яму ў яго чорнай рабоце на згубу народу. Народ ужо добра ведае, што толькі „Вызваленьне“ направіць яго долю, да „Вызваленьня“ народ ідзе, а здрайцаў сваіх гэткіх подлых солтысаў — Багданоў — належна пакарае.

3

## Толькі **3** павінна перамагчы усіх, бо гэта ёсьць нумар усіх сялян, злучаных у „Вызваленьні“: беларускіх, польскіх і украінскіх.

## Пісьмо у Рэдакцыю.

Шаноўны Грамадзяніне Рэдактару!

Нядаўна нас асьцярагала наша газэтка перад ашуканствамі паноў пры выбарах і праўду казала. Робяць паны ўсё, абы толькі ачмуціць народ.

Напрыклад у Дунілаўскім павеце. ў кожным выбарчым абводзе прэзэсамі камісьяў зьяўляюцца толькі ўласьнікі двароў, сябрамі таксама яны, альбо вы браныя імі уласьнікі большых нівэў—іх служкі. Нічога дзіўнага, што гэткія камісіі, зложаныя з ворагаў працоўнага народу робяць усё, каб апанаваць гэты народ. Не запісваюць усіх у сьпіскі выбаршчыкаў, а калі каторы селянін прыпомніць, каб яго ўпісалі, дык кажуць яму напісаць прашэньне, хаця й ведаюць, што мужык часта ня умее ні чытаць ні пісаць. Але й даведацца трудна, бо паны ня слухаюць выбарчага закону і трымаюць сьпіскі ў сябе, замест таго, каб выпажыць іх дзеля агляду. Апрача таго паны пастараліся падзяліць воласьць на абводы галасаваньня так. што часта вёска мае 7-8 вярстоў да выбарчага пункту, хоць маглаб быць прыдзеленаю да другога за 2-3 вярсты. Тутака, дык нібыто трымаюцца правілаў, што кожны абвод мае абнімаць 3000 выбаршчыкаў. Панская хітрасьць не на гэтым канчаецца.

Вось, напрыклад, у абводзе № 40 прэзэс комісіі **Ностусь Драздовіч** нагавараваў сабраных на паседжаньні камісіі, каб вызначылі пасламу кандыдата Сінкевіча, вядомага толькі ў адной воласьці. Нібыто ня ведаў п. Драздовіч, што гэта здрада, што на пасла трэба найменш 20.000 галасоў і што гэткім чынам сяляне з гэтага абводу кінулі-б свае галасы пад плот, бо хаця-ж бы іх галасы пайшлі на найлепшага чалавека, але ж толькі аднае воласьці, дык прапалі б напэўна.

Чаго яшчэ ня робяць паны — падкупляюць войтаў. солтысаў, розных брахуноў, якія бралі-б за іхнія грошы. На гэта йападаткаваліся па 2000 за дзесяціну. Раздаюць насялньню тысячы сваіх газэтаў і здрадзецкіх адозваў, валяць горы на „Вызваленьне“, выдумляюць розныя глупствы. Апошнімі днямі зьявіўся ў нас віленскі студэнт, Пятрук Пяткевіч; вельмі брахаў ён на „Вызваленьне“, удаваў з сябе вялікага дабрадзея беларусаў. А што ён рабіў, дзе быў, калі нас тут усе гнялі калі толькі „Вызваленьне“ бараніла працоўны народ? Цяпер прыехаў па галасы на выбары й разьбівае клясавую еднасьць мужыкоў.

Але нічога! Народ ужо навучыўся разьбіраць, дзе праўда, а дзе фальш. „Вызваленьне“ ўсюды перамагае!

**Тамашэвіч.**

Вёска Ліпоўка.

## Адказы ад Рэдакцыі

Грам. К. Сьветавастокаву. Мы атрымалі колькі Вашых пісьмаў. Вельмі добра вы апісываеце гэтыя праўдзівыя сумныя абразы нашага жыцьця — нядолю працоўнага народу і зладзействы яго катаў. Гэтакіх паноў Дмахоўскіх, Радкевічаў, гэтакіх войтаў Грыневічаў яшчэ людзі пераносяць. Верце, што ўжо хутка прыдзе дзень Вызваленьня. Але дзеля гэтага трэба выйграць на выбарах, а дзеля таго трэба, каб было болей такіх як вы змагальнікаў. З пашанай жмем Вашу руку, шляхотны прыяцелю! Працуйце далей!

## Наш сьпісак будзе называцца: P. S. L. „Wyzwolenie“ і „Lewica Ludowa“.

Рэдактар-Выдавец **С. Ваяводзкі.**

Друк. Баеўскага у Вільні.